Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя («Грамада») выступае за тое, каб кожная сям'я мела права на дзяржаўную дапамогу для набыцця першага жылля (чытайце на 3-й стар.).

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 69 (4424)

3 верасня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАДЗЕЯ

## У Слоніме Леў Сапега засланіў Леніна

Цэнтральнай падзеяй Дня беларускага пісьменства, які прайшоў 1 верасня ў Слоніме, стала адкрыццё на цэнтральнай гарадской плошчы помніка Льву Сапегу.

Плошча і прылеглыя да яе вуліцы ледзь змясцілі ўсіх ахвотнікаў папрысутнічаць на гэтым сапраўды гістарычным для горада мерапрыемстве. Пяціметровы бронзавы Сапега з гетманскай булавой у адной руцэ і каралеўскім прывілеем на выданне Статута ВКЛ у другой сапраўды ўражвае (трэба аддаць належнае знакамітаму скульптару Івану Міско, які родам з-пад Слоніма). Тысячы ўдзельнікаў і гасцей свята асобна і цэлымі кампаніямі цэлы дзень фатаграфаваліся на фоне канцлера – ажно ўтварылася даўжэзная чарга.



Паказальны той факт, што на выраб помніка не было затрачана ні рубля бюджэтных грошай – гараджане сабралі іх на суботніках. Таму помнік з поўным правам можна назваць народным. Праўда, стаіць ён чамусьці на плошчы Леніна, на што звярнуў увагу прысутных у сваім выступленні Іван Міско. На яго думку, гэта ўжо ўспрымаецца як недарэчнасць, і плошча неўзабаве таксама павінна стаць Сапегаўскай.

Як трапна заўважыла адна пажылая сланімчанка, схаваўшыся ад па-летняму спякотнага сонца ў ценю харугвы старажытнага Слоніма, Сапега засланіў сабой Леніна. І наступіць час, калі яму, бальшавіцкаму правадыру, наогул не знойдзецца месца ў горадзе па-над Шчарай.

Да Дня пісьменства з'явіліся ў Слоніме новая кнігарня "Санет", графіці гістарычнага зместу на фасадах дамоў, быў добраўпарадкаваны канал Агінскага. З больш лакальных цікавостак – лесвічныя прыступкі ў СШ №5, зробленыя ў выглядзе кніг айчынных класікаў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, Васіля Быкава, Зоські Верас, Янкі Маўра, Івана Шамякіна, Петруся Броўкі. Па тых незвычайных прыступках весела насіліся дзеці, смакуючы адмыслова выробленыя да свята "літаратурныя шакаладкі" з партрэтамі Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка.

Падчас Дня пісьменства былі ўручаны Нацыянальныя літаратурныя прэміі, лаўрэатамі якіх у розных жанрах сталі пісьменнікі Уладзімір Ягоўдзік, Алег Ждан, Мікола Маляўка, Віктар Хурсік, Святлана Калядка і Станіслава Умец. Нягледзячы на тое, што заснавальнікамі прэміі выступаюць ажно тры міністэрствы (інфармацыі і друку, культуры і адукацыі) і прыўладны Саюз пісьменнікаў Беларусі, яе матэрыяльнае забеспячэнне даволі сціплае – каля 2000 рублёў (аналагічная прэмія ва Украіне большая ў 50 (!) разоў).

Чаго мне бракавала на слонімскім Дні пісьменства? Пісьменнікаў і кніг. "Белкніга", адкрыўшы свой "Санет", не парупілася раскласці кніжныя навінкі на вулічных прылаўках. Трохі ратавалі сітуацыю незалежны кнігараспаўсюджвальнік Алесь Дудар і мінікнігаранька Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая прытулілася за спінай Льва Сапегі. І, трэба прызнацца, пакупнікоў у іх хапала. А ўсе цэнтральныя вуліцы захапілі піўвары і майстры шашлычных спраў. Рэстаранная развясёлая атмасфера лунала над бясконцымі прылаўкамі, якія ламаліся ад розных прысмакаў. Свята, задуманае для прапаганды айчыннай кнігі, для тысяч гараджан, на жаль, ператварылася ў бясконцы марафон ад аднаго піўнога шапіка да другога. А самым бесцырымонным выклікам для ўсіх прыхільнікаў беларушчыны стала рускамоўная песенная папса, якая гучала са шматлікіх дынамікаў і ад якой немагчыма было схавацца. Ледзь выйдзеш з "зоны дзеяння" адной песні – адразу трапляеш пад дэцыбелы другой.

Аціхла на слонімскіх вулачках святочнае рэха, раз'ехаліся госці (паводле падлікаў мясцовых улад іх было каля 30.000), а Леў Сапега застаўся стаяць на заўсёды люднай плошчы, каб рабіць сваю справу – абуджаць у душах сланімчан гістарычную памяць. Будзем спадзявацца, што гэта яму будзе па сілах.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ЗДАРЭННІ

## ...Вожык не пацярпеў

*Сур'ёзнае дарожна-транспартнае здарэнне адбылося ў цэнтры Дзяржынска.*

Каля 2 гадзін ночы 24-гадовы хлопец ехаў на Kia Sportage і заўважыў на дарозе вожыка.

Як паведамляе прэс-служба УУС Мінаблвыканкама, спрабуючы яго аб'ехаць, вадзіцель вылецеў за межы праезнай часткі. У выніку аўтамабіль пратараніў плот, пашкодзіў газавую трубу і ўрэзаўся ў бакавую частку жылога дома, прычыніўшы будынку істотныя пашкоджанні.

На шчасце, у аварыі ніхто з людзей сур'ёзна не пацярпеў. Вожык наогул не атрымаў ніводнай драпіны.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

НУ І НУ!

## Дзяўчынку, якая знікла ў Беларусі, праз 20 гадоў знайшлі ў Расіі

Дзяўчынку, якая знікла ў Беларусі, праз 20 гадоў знайшлі ў Расіі. Пра гэтую гісторыю са шчаслівым канцом паведамілі ў прэс-службе МУС нашай краіны. Бацькі згубілі 4-гадовую **Юлію** ў 1999-м у цягніку Мінск–Асіповічы. Яе доўга шукалі, але безвынікова. І вось нядаўна ў Пухавіцкую міліцыю патэлефанаваў малады чалавек з Расіі. Ён распавёў, што шукаў сваякоў сваёй знаёмай і натрапіў у інтэрнэце на старую аб'яву пра зніклую дзяўчынку. Яго знаёмая таксама згубілася ў дзяцінстве, яе знайшлі на чыгуначнай станцыі ў расійскай Разані. Юлія была ў інтэрнаце, пасля ў прыёмнай сям'і.

Цяпер Юліі 24 гады. Каб не заставалася сумненняў у сваяцтве, праводзілася даследаванне ДНК.

НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ!

## Памяць і перасцярога

*1 верасня ў Варшаве прайшлі мерапрыемствы з нагоды 80-й гадавіны пачатку Другой сусветнай вайны.*



У польскую сталіцу прыехалі 40 дэлегацый і 250 замежных гасцей, у тым ліку 20 кіраўнікоў дзяржаў – Германіі, Украіны, Балгарыі, Венгрыі, Грузіі, Латвіі, Чэхіі і іншых. Ад Германіі ў жалобных мерапрыемствах бралі ўдзел і канцлер, і прэзідэнт краіны – **Ангела Меркель і Вальтэр Штайнмаер**, ад ЗША – віцэ-прэзідэнт **Майк Пенс**.



Прэзідэнт Польшчы **Анджэй Дуда** падчас урачыстай прамовы заявіў, што нельга дапусціць, каб «*драма Другой сусветнай вайны паўтарылася". "Апошнім часам нават у Еўропе мы маем справу з вяртаннем імперскіх тэндэнцый, са спробамі змены межаў сілай, з нападамі на іншыя краіны, з адбіраннем іх зямель, з захопам грамадзян*», – сказаў Дуда.



Прэзідэнт Германіі Франк-Вальтэр Штайнмаер казаў аб тым, што Берлін нясе адказнасць за адзінства і дабрабыт Еўропы. «*Мая краіна мае асаблівую адказнасць перад Еўропай. Нягледзячы на гісторыю, у Германіі з'явілася магчымасць здабыць у Еўропе сілу. Менавіта таму немцы павінны рабіць для Еўропы больш. Мы павінны ўнесці ўклад у бяспеку, дабрабыт і згуртаванасць Еўропы*».



Скончылася мерапрыемства сімвалічна: кіраўнікі дзяржаў па чарзе білі ў звон, на якім быў надпіс «Памяць і перасцярога». На Магілу Невядомага Салдата быў ускладзены адзін агульны вянок, на стужцы якога таксама было напісана «Памяць і перасцярога».



ВІНШУЕМ!

## Бадзёрасці, наш любімы!

Лявон Лявонавіч Гінько…

Нарадзіўся 2 верасня 1930 года ў Заходняй Беларусі, або, як гаварылі, пры Польшчы. З'явіўся ён на свет у маленькай вёсачцы Ясюкі Пастаўскага раёна. Быў апошнім доўгачаканым хлопчыкам у сям'і.



Жыццё вывучаў не толькі па кнігах, але і па рэальных падзеях, якія адбываліся перад яго вачыма. "Вызваленне" 1939 года, прыход нямецкай улады, прымусовая калектывізацыя… Трапіў на новастворраныя курсы трактарыстаў і з таго часу з тэхнікай не разлучаўся да пенсіі.

Ад самага пачатку стварэння газеты з'яўляецца падпісчыкам "Народнай Волі". Заўсёды мае цвярозы погляд на жыццё ў свеце і ў нашай краіне. Жывая крыніца гісторыі, гумарэсак для сваіх дзяцей і ўнукаў. Клапатлівы муж (58 гадоў у шлюбе). Строгі, патрабавальны бацька. Пяшчотны і далікатны дзядуля. Уважлівы і любячы прадзядуля.

Доўгіх гадоў жыцця і бадзёрасці табе, наш любімы муж, татачка, дзядуля, прадзядуля!

**Ганна ВЕНГУРА, дачка.**

ПАЗІЦЫЯ

Ігар БАРЫСАЎ:

## Створым БУДУЧЫНЮ разам!

*Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) тлумачыць, навошта партыя ўключаецца ў парламенцкую выбарчую кампанію, а таксама заклікае далучацца да каманды сацыял-дэмакратаў ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.*

**– Навошта ісці на выбары, калі ў рэальнасці іх няма?**

– А мы і не кажам, што яны рэальна ёсць. Мы кажам пра выбарчую кампанію, якая для нас ва ўмовах, якія склаліся, з'яўляецца свайго кшталту акном магчымасцяў.

Мы бачым, як з кожным годам звужаюцца магчымасці для ўдзелу апазіцыі ў любога кшталту актыўнасці.

З гэтага года, пасля прыняцця Саўмінам пастановы №49, якая ўвяла расцэнкі на аплату паслуг міліцыі ў залежнасці ад колькасці ўдзельнікаў мерапрыемстваў, быў фактычна пастаўлены крыж на вулічнай грамадзянскай актыўнасці. Сарваны "Чарнобыльскі Шлях", святкаванне Дня працы, рэлігійныя хросныя хады і іншыя грамадскія актыўнасці. Дагэтуль цягнуцца суды з міліцыяй, якая, на маю думку, вырашыла зарабіць грошы і на без таго бедных дэмакратах, выставіўшы рахунак за свае паслугі на Дзень Волі ў два разы большы за першапачатковы.

Таму выбарчая кампанія – гэта легальны спосаб кантактаваць з выбаршчыкамі, дэклараваць свае каштоўнасці і праграмныя тэзісы, стаяць пад нашымі нацыянальнымі сцягамі, мабілізаваць сваіх прыхільнікаў, папаўняць шэрагі партыі за кошт новых актывістаў, зрабіць арганізацыю больш пазнавальнай.

**– Але ўсё роўна частка апазіцыі за ўдзел у выбарах будзе называць вас спарынг-партнёрамі. Што скажаце на гэты конт?**

– Тая частка апазіцыі, якая мае легальныя арганізацыі (за выключэннем КХП–БНФ), заявіла, што ўключаецца ў выбарчую кампанію, а тая частка апазіцыі, якая не мае легальных структур, будзе спрабаваць вылучыць сваіх прадстаўнікоў альбо праз легальныя структуры, альбо хацела б гэта зрабіць самастойна, аднак не можа.

Таму найлепшая пазіцыя для іх – гэта крытыка сваіх апанентаў, каб паказаць сваю выключнасць. Сабраць 1000 подпісаў ва ўмовах, калі няма свабодных і справядлівых выбараў, значна складаней, а для некаторых і проста немагчыма, бо гэта цяжкая і складаная праца, якая ніведіруецца вынікамі "галасавання".

Таму вылучыць кандыдатаў з'ездам партыі куды прасцей, чым сабраць 1000 подпісаў. У гэтым і ёсць перавага партый.

Акрамя таго, для нас вельмі важны тэлеэфір, які прадастаўляецца зарэгістраваным кандыдатам у дэпутаты. Гэта, бадай, адзіная легальная магчымасць, калі ты не сапраўдны спарынг-партнёр улады, патрапіць на дзяржаўнае тэлебачанне і атрымаць больш шырокую аўдыторыю.

**– Чаго хочаце дамагчыся сваім удзелам у выбарчай кампаніі?**

– Хочам сабраць пад сваімі партыйнымі сцягамі неабыякавых грамадзян, у якіх баліць душа за Беларусь, што стала краінай страчаных магчымасцяў, і якія гатовы актыўна ўдзельнічаць у палітычных працэсах, каб мяняць краіну да лепшага эвалюцыйным шляхам.

Мы прапаноўваем актыўным грамадзянам далучацца да нашай партыі і станавіцца кандыдатамі ў дэпутаты ад нашай партыі, уваходзіць у склад участковых выбарчых камісій, быць назіральнікамі на выбарах.

Час на гэта яшчэ ёсць. 22 верасня ў нас адбудзецца з'езд, на якім мы і вылучым кандыдатаў у дэпутаты.

Калі людзі падтрымліваюць платформу сацыял-дэмакратаў, праграмы прынцыпаў і дзеянняў, а таксама гатовы ў межах Статута партыі ўдзельнічаць ва ўнутрыпартыйным жыцці – іх месца з намі.

Калі іх пакрыўдзіла ўлада і яны хочуць пра гэта расказаць з экранаў тэлевізараў – мы дапаможам у гэтым, і ў іх будзе 5 хвілін славы. Не толькі шырокая грамадскасць, але і ўлада пачуе іх.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Святлана РАКЕЦКАЯ: «У хуткім часе Дэпардзье ўжо можа будавацца…»

*Выконваючая абавязкі старшыні Папярнянскага сельвыканкама распавяла "Народнай Волі" пра тое, якім чынам вызначалі зямельны ўчастак вядомаму французскаму акцёру.*

Нагадаем, што ў 2013 годзе **Жэрар Дэпардзье** стаў грамадзянінам Расіі з месцам пашпартнай прапіскі ў Саранску. У тым жа годзе ён атрымаў званне Ганаровага грамадзяніна Чачні і ключы ад пяціпакаёвай кватэры ў Грозным.

Некалькі разоў акцёр наведваўся і ў Беларусь, дзе сустракаўся ў тым ліку і з беларускім кіраўніком. І, як раней паведамлялася ў СМІ, вынікам гэтага стала тое, што беларускія ўлады далі Дэпардзье ў арэнду ўчастак зямлі ў вёсцы Лапаровічы Мінскага раёна. Яго суседзямі на беразе Мінскага мора будуць такія вядомыя асобы, як трохразовая алімпійская чэмпіёнка па біятлоне Дар'я Домрачава, футбаліст Аляксандр Глеб…

Я вырашыў высветліць у сельскім выканкаме некаторыя падрабязнасці атрымання акцёрам зямельнага ўчастка, але з першай спробы пагутарыць з выконваючай абавязкі старшыні Папярнянскага сельсавета **Святланай Ракецкай** не ўдалося. Чыноўніца мясцовага маштабу заявіла, што перш-наперш трэба атрымаць дазвол на гутарку ў ідэалагічным аддзеле Мінскага райвыканкама, і гэта мяне некалькі здзівіла. Сельскі выканкам – закрытае абароннае прадпрыемства? Турма ці псіхіятрычная лякарня? І чаму нейкі раённы чыноўнік павінен вырашаць, з кім у сельсавеце могуць размаўляць, а з кім не?

Зрэшты, гэта тэма для асобнай размовы. Пасля майго выхаду на ідэолага Святлана Васільеўна ў выніку адказала на некалькі пытанняў, якія мяне цікавілі.

**– Найперш хацелася б даведацца, на падставе якога дакумента і з якіх інстанцый сельвыканкам вызначыў Дэпардзье ўчастак зямлі на беразе Заслаўскага вадасховішча?**

– Падчас наведвання Беларусі акцёр сустракаўся з прэзідэнтам Беларусі, і апошні ўхваліў рашэнне Мінскага абласнога выканаўчага камітэта аб выдзяленні зямельнага ўчастка для будаўніцтва і абслугоўвання аднакватэрнага жылога дома Жэрару Дэпардзье. Адным словам, прэзідэнт задаволіў хадайніцтва Мінаблвыканкама. А затым гэты дакумент паступіў нам для выканання.

**– Ці ёсць заява самога Дэпардзье на тое, каб яму вызначылі ўчастак зямлі ў Лапаровічах?**

– Ва ўстаноўленым парадку ў Папярнянскі сельвыканкам з заявай звярнулася даверaная асоба Жэрара Дэпардзье. Ён дзейнічаў па даверанасці, і на падставе гэтага далей ішлі ўсе неабходныя адміністрацыйныя працэдуры.

**– Прадстаўнік Дэпардзье – замежнік альбо беларус?**

– Гэта прыватная інфармацыя, мы не маем права яе разгалошваць.

**– Адным словам, заявы акцёра няма?**

– Няма, але ён раней прыязджаў у Беларусь і размаўляў з тагачасным старшынёй сельвыканкама Мікалаем Гільнічам. А заяву, як ужо казала, мае поўнае права падаць і даверaная асоба.

**– Дэпардзье – грамадзянін Расіі (ад французскага грамадзянства ён адмовіўся, не захацеў плаціць вялікія падаткі). Паводле беларускага заканадаўства, ці маюць права атрымліваць зямлю ў арэнду расійскія грамадзяне?**

– Могуць. Паколькі Дэпардзье з'яўляецца грамадзянінам замежнай дзяржавы, то зямельны ўчастак на 15 сотак яму выдалі ў арэнду на 99 гадоў.

На гэтым месцы Жэрар Дэпардзье пабудуе свой дом.

Пасля касьбы...

**– На якой стадыі зараз знаходзіцца працэс выдзялення зямельнага ўчастка?**

– Участак ужо выдзелены, афармлена пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі. Зараз вядуцца праектна-разведачныя работы, зацвярджаецца праект дома, узгадняецца схема забудовы ўчастка. Так што ў хуткім часе акцёр ужо можа будавацца.

**– Можа быць, вам вядомы нейкія вялікія заслугі Дэпардзье перад Беларуссю? Магчыма, акцёр інвеставаў у эканоміку нашай краіны ці Мінскага раёна вялікі капітал?**

– Не, мне пра гэта нічога не вядома.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## «Жэрар Дэпардзье – вопытны вінароб…»

Нагадаем, што ў 2017 годзе французскі акцёр падчас візіту ў Беларусь наведаў і Мінскі завод вінаградных він.

*"Падчас экскурсіі па заводзе спадар Дэпардзье, як вопытны вінароб, задаваў шмат пытанняў адносна вытворчасці савецкага шампанскага,* – паведамляе сайт прадпрыемства. – *Падчас перамоў высветлілася, што завод выпускае не толькі цудоўнае шампанскае і віно, але і моцныя напоі.*

*На прадпрыемстве актыўна працуюць над стварэннем брэнда "Беларуская гарэлка", экспартуючы прадукцыю па ўсім свеце. Так з'явілася ідэя стварыць сумесны праект – гарэлку «Gerard Depardieu», якая будзе прэміяльным прадуктам з беларускай душой і французскай вытанчанасцю".*

Вядома, што першыя партыі прадукцыі былі адпраўлены ў расійскія магазіны французскай кампаніі Auchan, а не так даўно гэтая гарэлка з'явілася і ў Беларусі.

РЭХА

# «Пачакаем канкрэтыкі…»

*Лідар "Матчынага руху 328"* ***Ларыса Жыгар*** *распавяла "Народнай Волі" пра тое, ці ёсць ужо вынікі сустрэчы з кіраўніком Адміністрацыі беларускага кіраўніка Наталляй Качанавай.*

Нагадаем, што "Матчын рух 328" – гэта грамадскае аб'яднанне, якое змагаецца за правы асуджаных за незаконны абарот наркотыкаў. Першапачаткова было патрабаванне наконт перагляду шэрагу крымінальных спраў. Выказвалася меркаванне, што следства неабгрунтавана кваліфікавала ўчынкі некаторых асоб па больш цяжкіх частках 328-га артыкула, чым належала. З часам патрабаванні грамадскасці пашырыліся да ўнясення змен у антынаркатычнае заканадаўства.

Пад уплывам аб'яднання "Матчын рух 328" Палата прадстаўнікоў сёлета прыняла змены ў Крымінальны кодэкс: ніжні парог пакаранняў па 2-й і 3-й частках артыкула 328 быў зменшаны на два гады.

У чэрвені прадстаўніцы руху аб'явілі галадоўку, пасля чаго іх прыняла кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава.

*"Па выніках сустрэчы і тых пытанняў, што мы задавалі, нам пакуль што далі з Адміністрацыі прамежкавы адказ,* – кажа **Ларыса Жыгар.** – *А пасля таго як кіраўнік краіны выказаўся з нагоды працы сілавікоў, павінны прыйсці ўжо пашыраныя адказы. Нейкі рух пачаўся, бо жанчын з нашага руху прымаў ужо і генеральны пракурор Аляксандр Канюк, два разы былі сустрэчы з міністрам унутраных спраў Юрыем Караевым. Нам далі зразумець, што некаторыя нашы просьбы можна будзе задаволіць. Але пачакаем канкрэтыкі…"*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ФОТАФАКТ

# У якой краіне мы жывём?

Напярэдадні 1 верасня наведаўся ў сталічны магазін "Таламарт", які знаходзіцца ў гандлёвым цэнтры "Магніт" (праспект Дзяржынскага, 106), і, шчыра кажучы, быў проста ўражаны тым, што ўбачыў, як кажуць, на топавым месцы – на касе прадаўца. Да новага навучальнага года беларускім дзецям прапаноўваюць сшыткі з расійскім гербам і сцягам на вокладцы.

І ў мяне з гэтай нагоды некалькі пытанняў. Можа быць, Беларусь ужо ўвайшла ў склад Расіі? Калі не, то няўжо беларускія вытворцы не ў стане забяспечыць айчынныя крамы сшыткамі з нацыянальнай сімволікай? У рэшце рэшт, дзе патрыятычнае выхаванне моладзі? Бо, гледзячы на тое, што нашым дзецям прапаноўваецца, не зусім і зразумела, у якой краіне жывём.

**Віктар ШПАК.** *Фота аўтара.*

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

# Не уезжать же за границу...

В Солигорске, где самая высокая средняя зарплата по Беларуси, достаточно много семей, для которых собрать ребенка в школу в материальном плане не проблема.

Но в городе немало и таких семей, которые входят в те 48 процентов трудящихся страны, чья зарплата 800 рублей и меньше.

Алексей – строитель. На руки чистыми он получает в месяц 700 с небольшим хвостиком. Работа жены связана со сферой услуг, ее заработок составляет около 500.

– Учитывая, что мы снимаем квартиру, отдавая за нее хозяину 140 долларов (в эквиваленте), плюс оплата коммунальных, то непосредственно на жизнь нам остается приблизительно 850 рублей. На троих. Поэтому собрать сына в начальную школу было нелегко. Жена что-то умудрялась откладывать с начала лета. Но и то не уложились бы, если бы бабушка с дедушкой не помогли – взяли на себя часть расходов, связанных с приобретением канцелярских товаров, рюкзака, спортивного костюма, рубашки. В общем, жена говорила, что потратили они на это со своих пенсий 130–140 рублей. Ну и мы отдали 370 рублей. Те вещи, что купили сыну для школы, не самого высокого уровня и качества.

Алексей в раздумье: чтобы улучшить финансовое положение семьи, нужно искать новую работу. Уехать на заработки за границу? Не хочется оставлять семью даже на время, хотя этот вариант все чаще приходит ему в голову. Именно проблемы, связанные с подготовкой сына к школе, в этом году укрепили его в мысли, что необходимо срочно искать выход для улучшения качества жизни семьи.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**
*г.Солигорск.*

ПРЭЦЭДЭНТ

# Рух «За Свабоду» вылучаць кандыдатаў у дэпутаты будзе на канферэнцыі

Дата яе правядзення ўжо вызначана – 28 верасня. Але ў адпаведнасці з выбарчым заканадаўствам грамадскія аб'яднанні ў нашай краіне не маюць такога права: вылучаць кандыдатаў у дэпутаты могуць толькі партыі і працоўныя калектывы.

**– Навошта ствараць прэцэдэнт, ведаючы якім будзе вынік?** – з такім пытаннем мы звярнуліся да старшыні руху Юрася Губарэвіча.

– Сапраўды, заканадаўства ўводзіць абмежаванні для грамадскіх аб'яднанняў, але акрамя Выбарчага кодэкса ёсць Канстытуцыя, – кажа палітык. – У прыватнасці, у артыкуле 69 Асноўнага закона сцвярджаецца, што права вылучэння кандыдатаў у дэпутаты належыць грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам і грамадзянам у адпаведнасці з законам. Ёсць артыкул 5, у якім таксама празрыста запісана, што грамадскія аб'яднанні бяруць удзел у выбарах. То бок Канстытуцыя нам гэта дазваляе, і наша задача, абапіраючыся на Канстытуцыю, рэалізаваць права на вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.

Канешне, мы можам прагназаваць, якой будзе рэакцыя ўлад, – хутчэй за ўсё, забарона, нашых кандыдатаў не зарэгіструюць, і, натуральна, ім прыйдзецца збіраць подпісы, каб балатавацца на выбарах. Але мы такім чынам уздымаем праблему, якой больш за 20 гадоў, і нечакана можам атрымаць саюзнікаў нават з боку праўладных рухаў: прадстаўнікоў "Белай Русі" таксама не рэгіструюць як вылучэнцаў ад грамадскай арганізацыі.

**– Але іх рэгіструюць ад працоўных калектываў… Калі вашых прадстаўнікоў, вылучаных на канферэнцыі, не зарэгіструюць – што далей?**

– Будзем звяртацца ў суд, і няхай нам патлумачаць, чаму ў краіне не дзейнічае Канстытуцыя.

**– Сколькі сяброў руху плануюць удзельнічаць у выбарах?**

– На дадзены момант у спісе больш за 30 чалавек, але, думаю, людзі яшчэ дададуцца. Ахопім не толькі Мінск, у кожнай вобласці будзе кандыдат ад руху "За Свабоду".

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ВЫБАРЫ

# Тры прадстаўнікі апазіцыі…

*У Гродзенскай вобласці сфарміравалі склад абласной і 13 акруговых выбарчых камісій па выбарах у Палату прадстаўнікоў.*

Ад апазіцыйных структур у склад абласной патрапіў толькі адзін прадстаўнік – **Дзмітрый Рыжы**, сябра Беларускай партыі левых "Справядлівы свет", якую ўзначальвае Сяргей Калякін. Рыжы, дарэчы, быў членам камісіі і на прэзідэнцкіх выбарах 2016 года. Усяго на 13 месцаў у склад абласной камісіі было вылучана 20 кандыдатур.

У 13 акруговых камісій было вылучана 219 прадстаўнікоў на 169 месцаў. Ад апазіцыйных структур уключаны тры вылучэнцы: **Святлана Руміна** (БПЛ "Справядлівы свет"), **Міхаіл Караткевіч** (БПЛ "Справядлівы свет") і **Станіслаў Бокіш** (БСДП "Грамада").

Як афіцыйна агучвалася, асноўнымі крытэрыямі адбору кандыдатаў былі дзелавыя і асабістыя якасці асоб, аналітычны склад розуму, аўтарытэт сярод падначаленых служачых, досвед работы ў камісіях мінулых выбараў, устойлівасць у дасягненні пастаўленых задач, камунікатыўнасць, камунікабельнасць, тактоўнасць. Традыцыйна гэтым якасцям не адпавядалі прадстаўнікі ад БНФ "Адраджэнне", руху "За Свабоду", Аб'яднанай грамадзянскай партыі – ніводны іх вылучэнец у склад камісій не трапіў.

Кіраўнік Гродзенскай арганізацыі Партыі БНФ **Вадзім Саранчукоў**, які прысутнічаў на пасяджэнні падчас фарміравання абласной і акруговых выбарчых камісій, заўважыў "Народнай Волі", што падобных вынікаў яны чакалі. *"Было відавочна, што кандыдатуры, якія павінны былі ўвайсці ў склад выбарчых камісій, ужо зацверджаны, і сябры прэзідыума Гродзенскага аблсавета і Гродзенскага аблвыканкама ведалі, за каго трэба галасаваць,* – перакананы Саранчукоў. – *А гэта ўжо ў самым пачатку выбараў сведчыць аб тым, якімі яны будуць"…*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ИНИЦИАТИВА

# «Робім разам»

## *Сделаем «Билево» зеленым!*

«Билево» – новый микрорайон на востоке Витебска. Он и сейчас продолжает интенсивно застраиваться. Новое жилье – это, конечно же, хорошо. Но насколько микрорайон удобен для жизни?

– *У нас очень остро стоит проблема озеленения,* – почти в один голос говорят местные жители. – *Если проедетесь по улицам Богатырева, Баграмяна, Актеров Еременко, Генерала Ивановского, то увидите сплошные ряды домов. Кругом – один камень. Людям негде нормально отдохнуть, подышать свежим воздухом. А ведь среди нас много сторонников здорового образа жизни! В общем, район уплотняется – а новых деревьев никто не высаживает!.*

Поэтому Витебская команда «Говори правду» и начала проект «Робім разам» за озеленение микрорайона «Билево».

– *Сегодня мы живем в каменных джунглях,* – говорит ее лидер Олег Квятинский. – *Во многих жилых массивах Витебска мало деревьев, нет полноценных места для отдыха. При этом городские власти еще хотят вырубать парки и строить на их месте новострои-церкви. Производится уплотнение – строительство зданий среди других на месте зеленых зон. А страдаем из-за него мы. Люди переживают за свое здоровье и желают лучшего своему городу.*

Витебская команда «Говори правду» хочет изменить ситуацию. И начать озеленение с микрорайона «Билево».

– *Мы не требуем невозможного – высадить огромный лесопарк или сделать аллеи с роскошными фонарями,* – говорит Олег Квятинский. – *Наша цель – добиться высадки деревьев на дворовых и междворовых территориях. Чтобы у жителей не возникало ощущения «каменных джунглей», а жизненная среда стала более комфортной. Также рядом с микрорайоном есть пустырь, который нуждается в озеленении. Более детальный проект мы готовы обсудить с властями города.*

Команда «Робім разам» уже составила обращение в Витебский горисполком. На этой неделе начнется сбор подписей жителей микрорайона за озеленение. Также планируется провести собрание жителей по вопросам озеленения и благоустройства.

– *А 8 сентября команда «Говори правду» проведет в Витебске «Школу ответственного собственника». Все желающие смогут узнать, как сделать свой дом, свой двор или свой район более комфортными для жизни. Пора брать ответственность за комфортную среду обитания в свои руки!* – заключает Олег Квятинский.

**Андрей ИГНАТОВИЧ.**

**Зарегистрироваться на занятия «Школы ответственного собственника» в Витебске: https://www.facebook.com/604009802958623/posts/3589128944446679/, https://vk.com/wall-15967028_15729**

# Беларусь – краіна магчымасцяў

## Платформа Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) да выбараў 17 лістапада 2019 года ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сёмага склікання

### За свабоду, справядлівасць, салідарнасць

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) пераканана, што будучыня Беларусі заключаецца ў пабудове грамадства на прынцыпах свабоды, сацыяльнай справядлівасці і салідарнасці.

Свабода – гэта права любога чалавека быць вольным у вызначэнні свайго лёсу, вольным у выбары, вольным ад палітычнага, адміністрацыйнага і эканамічнага прымусу. Свабода – гэта баланс інтарэсаў асобы, грамадства і дзяржавы.

Справядлівасць (роўнасць) – роўнасць грамадзян перад законам, роўныя правы на годныя чалавечыя ўмовы жыцця незалежна ад паходжання, сацыяльнай, этнічнай, рэлігійнай, палітычнай і палавой прыналежнасці, роўныя магчымасці для раскрыцця сваёй індывідуальнасці і самарэалізацыі.

Салідарнасць – узаемадзеянне паміж грамадзянамі і грамадскімі групамі для дасягнення агульнага дабрабыту і дабрабыту кожнага чалавека. Гэта кампраміс паміж інтарэсамі розных сацыяльных, нацыянальных, палітычных, рэлігійных груп грамадзян як аснова грамадзянскага міру і нацыянальнай згоды. Гэта павага да людзей сталага веку, жанчын, людзей з інваліднасцю.

### За свабодныя выбары

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) выступае за правядзенне адкрытых, галосных, свабодных і справядлівых выбараў. Мы лічым, што любая змена ўлады павінна адбывацца мірным эвалюцыйным шляхам выключна праз інстытут выбараў.

Адсутнасць рэальных выбараў у Беларусі супярэчыць дэмакратычнаму і эканамічнаму развіццю краіны, не ўлічвае інтарэсы ўсіх груп грамадзян і геапалітычны еўрапейскі выбар грамадзянак і грамадзян Беларусі.

БСДП выступае за прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі на аснове Канстытуцыі 1994 года. Мы бачым Беларусь парламенцкай рэспублікай, дзе парламент з'яўляецца сапраўдным заканадаўчым органам, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі розных палітычных партый, а дэпутаткі і дэпутаты абраны па змешанай прапарцыянальна-мажарытарнай сістэме.

БСДП выступае за аднапалатны парламент, увядзенне новага адміністрацыйнага дзялення ў Рэспубліцы Беларусь і ўтварэнне 18 акруг замест 6 абласцей.

БСДП выступае за далучэнне Беларусі да Еўрапейскай хартыі аб мясцовым самакіраванні. Замест прэзідэнцкай вертыкалі ўлады БСДП прапануе ўвядзенне інстытута мясцовага самакіравання з выбарамі кіраўнікоў гарадоў і раёнаў. У вёсках мэтазгодна выбіраць стараст.

БСДП выступае за ўвядзенне практыкі правядзення электронных кансультацыйных рэферэндумаў нацыянальнага і мясцовага значэння.

### За сацыяльную дзяржаву

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) лічыць, што дзяржава павінна быць адказнай за лёс сваіх грамадзян і клапаціцца пра іх.

У цэнтры нашай палітычнай ідэалогіі стаіць чалавек. Менавіта чалавек, а таксама яго патрэбы, а не капітал з яго палітычнымі і эканамічнымі элітамі для нас з'яўляюцца найважнейшай каштоўнасцю.

БСДП выступае за бясплатную дзяржаўную і даступную медыцыну, адукацыю, бясплатнае сацыяльнае абслугоўванне грамадзян. Прафесіі медыкаў і педагогаў павінны стаць прэстыжнымі: усім, хто працуе ў сферы аховы здароўя і на ніве адукацыі, неабходна павысіць заробкі, даць мэтавыя субсідыі на набыццё жылля і іншыя сацыяльныя гарантыі.

Кожны грамадзянін мае права на атрыманне дастойных заробкаў, пенсій, сацыяльнай дапамогі і дапамогі па беспрацоўі. У страхавы стаж павінны быць вернуты час службы ў войску, вучобы ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, знаходжанне ў адпачынку па доглядзе за дзіцем да ўзросту да трох гадоў, а таксама па доглядзе за інвалідамі, бо ўся пералічаная праца з'яўляецца грамадска карыснай.

БСДП выступае за роўны пенсійны ўзрост для жанчын і мужчын і лічыць выхад іх на пенсію аптымальным у 60 гадоў. Выхад на пенсію ў больш старэйшым узросце можа быць абумоўлены толькі павелічэннем працягласці жыцця. БСДП выказваецца за ранейшы выхад на пенсію жанчын, якія нарадзілі і выхавалі трох і болей дзяцей, а таксама за прыбаўку гэтым жанчынам да пенсій. БСДП выступае за паступовы пераход да накапляльных пенсійных фондаў, якія фарміруюцца за кошт адлічэнняў працадаўцаў, гарантый дзяржавы і ўласных адлічэнняў работніка.

БСДП выступае за ўвядзенне сістэмы прагрэсіўнага падаткаабкладання, калі падатак будзе залежаць ад узроўню даходаў. БСДП лічыць мэтазгодным увядзенне падатку на раскошу для ўласнікаў элітных жылля, аўтамабіляў, а таксама іншай рухомай і нерухомай маёмасці.

Усім ліквідатарам аварыі на Чарнобыльскай АЭС, ветэранам баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў, а таксама ганаровым донарам павінны быць вернуты сацыяльныя гарантыі. Для пенсіянераў ва ўзросце "70+" і дзяцей ва ўзросце да трох год лекі павінны выдавацца бясплатна.

### За абарону правоў працоўных

БСДП прадстаўляе палітычныя інтарэсы людзей наёмнай працы. Незалежныя прафсаюзы, якія аб'ядноўваюць у сваіх шэрагах людзей наёмнай працы, павінны рэальна адстойваць правы членаў сваіх арганізацый, а для гэтага ў краіне павінен працаваць закон. Сацыял-дэмакраты выступаюць за моцныя незалежныя прафсаюзы, мэта якіх – сапраўдная абарона правоў працоўных.

БСДП выступае за вяртанне рэальнай трыпартыцкай сістэмы (заключэнне тарыфных і генеральных пагадненняў паміж прафсаюзамі і наймальнікамі пры пасрэдніцтве дзяржавы), БСДП выступае за прасоўванне каштоўнасцяў калектыўных дамоў і падтрымлівае намеры наймальнікаў і працоўных цывілізавана дамаўляцца аб кошце працы і ўмовах працы на ўсіх узроўнях праз заключэнне калектыўных дамоў, што будзе на карысць усім бакам трыпартызму, за тое, каб інтарэсы працоўных прадстаўлялі прафсаюзы.

БСДП выступае за рэформу сістэмы найму (кантрактнай сістэмы) і, як наступства гэтага, за адмену прэзідэнцкіх дэкрэтаў, якія парушаюць правы працоўных і накіраваны супраць працоўнага чалавека. Абавязковыя кантракты павінны заключацца выключна з кіраўнікамі дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, дзяржаўнымі служачымі і іншымі вызначанымі спісам спецыялістамі.

БСДП лічыць, што мінімальны памер аплаты працы мусіць вызначацца з улікам эканамічнай сітуацыі, а разрыў паміж мінімальнай платай і сярэднім заробкам павінен скарачацца. БСДП выступае за тое, каб мінімальны заробак і пагадзінная аплата працы фарміраваліся з разлікам на сям'ю, работніка, а не на аднаго чалавека.

Памер дапамогі па беспрацоўі павінен складаць не больш за 60% ад заробку, які грамадзянка ці грамадзянін атрымлівалі на апошнім месцы працы, але не больш за сярэдні па краіне. Дадзеная дапамога павінна ў такім памеры выплачвацца на працягу года.

БСДП пераканана, што праца павінна быць правам, а не абавязкам, а заробку павінна хапаць не толькі на ежу і аплату камунальных паслуг, але і на творчыя інтарэсы, самаадукацыю, хобі, культурны адпачынак і г.д.

### За новыя працоўныя месцы

БСДП пераканана, што асноўнымі праблемамі, якія павінны быць вырашаны ў краіне, з'яўляюцца стварэнне новых працоўных месцаў, стварэнне ўмоў для дыстанцыйнай працы і адукацыі, спрашчэнне ўмоў для пачатку і вядзення бізнесу.

БСДП выступае ў падтрымку чацвёртай прамысловай рэвалюцыі (Індустрыя 4.0), якая павінна вызваліць чалавека ад цяжкай фізічнай працы, абараніць яго ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці, даверыць руцінную працу робатам, знізіць колькасць працоўных гадзін на тыдзень для рабочых без скарачэння памеру іх заробкаў.

БСДП лічыць, што новыя працоўныя месцы павінны стварацца ў сферы абслугоўвання (IT-галіна, лагістыка, арганізацыя грамадскага харчавання), сферы развіцця чалавечага патэнцыялу (медыцына, адукацыя, культура, ЖКГ), сферы арганізацыі турызму і адпачынку, прыватнага і сацыяльнага прадпрымальніцтва, а таксама інвестыцый у новыя сучасныя тэхналагічныя вытворчасці (высокатэхналагічныя вытворчасці ў сферах электронікі, оптыкі, біяінжынерыі, нанавытворчасці і абароннай прамысловасці).

Стратныя і датацыйныя прамысловыя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы павінны спыніць працу праз сваю неэфектыўнасць і нізкія заробкі, якія не забяспечваюць работнікам і іх сем'ям годнае існаванне. Неабходна спыніць датацыі стратных дзяржаўных прадпрыемстваў, аслабіць умяшальніцтва дзяржавы ў сферу эканомікі, паэтапна скараціць долю дзяржаўнай уласнасці.

Працэс прыватызацыі павінен адбывацца адкрыта, а грамадзянкі і грамадзяне павінны мець права на набыццё акцый прадпрыемстваў, якія падлягаюць прыватызацыі, праз рынак каштоўных папер. Работнікам прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца, гарантуецца ўдзел у прыватызацыі на льготных умовах.

БСДП выступае за развіццё малога бізнесу і прадпрымальніцтва, лібералізацыю бізнесу і аўтаматызацыю бізнес-працэсаў, ліквідацыю ненатуральных манаполій. Павінны быць спынены дзяржаўныя і недзяржаўныя наборы з прадпрымальнікаў, а працэс вядзення бізнесу неабходна дэбюракратызаваць.

БСДП выступае за ўвядзенне льготнага перыяду для новых беларускіх камерцыйных кампаній і інвестараў на працягу трох гадоў, а таксама бязвыплатную перадачу пустуючых памяшканняў і будынкаў камерцыйным арганізацыям.

БСДП выступае за амністыю капіталу для малога і сярэдняга бізнесу і ўвядзенне 10-гадовага перыяду беспраўдзачнай працы для інвестараў. Гэтая мера накіравана на структурныя рэформы і вывад бізнесу з ценю, спыненне працы на шэрых і чорных схемах. Пры гэтым легалізацыя капіталу не датычыцца кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, дзяржаўных служачых і дэпутатаў.

БСДП выступае за распрацоўку новага закона аб зямлі, які будзе рэгуляваць узаемаадносіны землеўладальнікаў з дзяржавай. На падставе гэтага закона зямля становіцца прыватнай уласнасцю з поўнымі абмежаваннямі для замежнікаў. У адпаведнасці з новым законам зямля здаецца ў арэнду, прадаецца, закладаецца ў банку і з'яўляецца аб'ектам куплі-продажу. Не могуць перадавацца ў прыватную ўласнасць азёры, лясы, часткі рэк.

### За даступнае жыллё

БСДП выступае за тое, каб кожная сям'я мела права на дзяржаўную дапамогу для набыцця першага жылля.

Грамадзянкі і грамадзяне, якія пражываюць у дамах, у выпадку прызнання іх аварыйнымі, павінны быць перасялены ў сучаснае арэнднае жыллё з правам яго прыватызацыі на льготных умовах. Ніхто не мае права выселіць чалавека з жылля без прадастаўлення яму іншага сталага месца жыхарства.

БСДП выступае за будаўніцтва новых дамоў і магчымасць прыватызацыі арэнднага жылля. Мы лічым, што на працягу 10 гадоў у краіне павінна быць пабудавана мінімум 500 тысяч арэндных кватэр ва ўсіх населеных пунктах. Тэмпы і высокая якасць будаўніцтва мусяць быць забяспечаны за кошт выкарыстання новых будаўнічых тэхналогій і матэрыялаў.

БСДП выступае супраць ушчыльнення старых мікраараёнаў новымі будынкамі, а таксама за стымуляванне індывідуальнага домабудаўніцтва ў прыгарадах беларускіх гарадоў.

Павінна быць ліквідавана рэгіянальная дыспрапорцыя ўмоў пражывання грамадзянак і грамадзян.

### За развіццё транспарту і камунікацый

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) лічыць, што адной з найважнейшых праблем сучаснай Беларусі з'яўляецца неразвітая транспартная камунікацыя і адсутнасць прыдарожнага сэрвісу.

Сучасны стан дарог у гарадах і вёсках выклікае нараканне, бадай, кожнага аўтаўладальніка. Вырашэнню дадзенага пытання дзяржава не надае належнай увагі. Уведзены "транспартны падатак" на аўтаўладальнікаў не спрыяе хуткаму аднаўленню дарожнага пакрыцця. Большую несправядлівасць дадзенага падатку адчуваюць пенсіянеры, людзі з інваліднасцю і іншыя грамадзяне, якія маюць уласныя аўтамабілі, аднак карыстаюцца імі выключна ў летні сезон. Мы выступаем за скасаванне "транспартнага падатку".

БСДП лічыць, што дарожна-транспартная сетка павінна фарміравацца з улікам новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення. Добрыя, якасныя дарогі павінны звязваць усе населеныя пункты ў Беларусі з цэнтрамі новых акруг.

БСДП выступае за перагляд нарматываў па будаўніцтве і рамонце дарог з разлікам на тое, што мінімальны гарантыйны тэрмін іх эксплуатацыі павінен складаць для агульнарэспубліканскіх дарог (моцна нагружаных) не менш за 15 гадоў, рэгіянальных (якія з'ядноўваюць гарады) – не менш за 10 гадоў, астатніх – не менш за 7 гадоў.

### За экалагічную Беларусь

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) выступае за ўвядзенне прынцыпаў "зялёнай эканомікі".

БСДП выступае за выкарыстанне ў прамысловасці новых матэрыялаў, прадуктаў і аднаўляльных крыніц энергіі, а таксама арганічную сельскую гаспадарку, арганічную вытворчасць, экатурызм, экалагічнае выхаванне насельніцтва, сартаванне адходаў і іх рэцыкляцыю.

Беларусь як краіна, якая найбольш пацярпела ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, павінна адмовіцца ад будаўніцтва атамнай станцыі ў Астраўцы і працягваць адпавядаць статусу бяз'ядзернай краіны. Ворныя землі, якія маюць узровень забруджвання радыенуклідамі больш за 15 Бк/км², не павінны выкарыстоўвацца для сельскагаспадарчых патрэб.

БСДП выступае за развіццё альтэрнатыўных відаў энергетыкі (энергія сонца, ветру, рэк, біяэнергетыка), скарачэнне нафтагазавай залежнасці, дыверсіфікацыю пастаўкі энерганосьбітаў, а таксама за паступовую замену аўтамабіляў, матацыклаў і скутараў з дызельнымі і бензінавымі рухавікамі на электрычныя.

Усе новыя мікрараёны павінны праектавацца з улікам мэтаў устойлівага развіцця. Нашы гарады і прыгарады павінны быць адаптаваны да ровараў. У гарадах і прыгарадах павінна быць створана інфраструктура для парковак і гаражоў для ровараў, а таксама павінны з'явіцца роварныя святлафоры.

### За рэальны дзяржаўны статус беларускай мовы, развіццё культуры і дэідэалагізацыю грамадства

БСДП выступае за практычнае забеспячэнне працэсу пашырэння ўжывання беларускай мовы і вяртанне яе ва ўжытак у дзяржаўных органах улады, сістэме адукацыі, сродках масавай інфармацыі, рэкламе.

БСДП выступае за трансляцыю дзіцячых тэлеперадач на беларускай і замежных мовах.

Усе дзяржаўныя і адукацыйныя ўстановы, арганізацыі і прадпрыемствы павінны пазбавіцца штатных ідэолагаў. Ідэалогія ў краіне павінна будавацца на плюралізме ідэй, а не дзяржаўнай ідэалогіі. У краіне павінна быць вызначана нацыянальная ідэя, якая павінна стаць асновай нацыянальнай палітыкі дзяржавы.

БСДП выступае за павышэнне заробкаў работнікам культуры, падтрымку музейнай справы, адраджэнне беларускіх замкаў, пошук і вяртанне гістарычных каштоўнасцяў з замежжа.

### Беларусь для маладых

БСДП лічыць, што выхаванне моладзі павінна быць адным з прыярытэтных напрамкаў дзяржаўнай палітыкі.

БСДП выступае за ўвядзенне новых школьных прадметаў "Дэмакратыя" і "Правы чалавека". Школа павінна пакласці канец функцыянальнай непісьменнасці і выхоўваць з дзяцей і падлеткаў грамадзян, якія ведаюць свае грамадзянскія, палітычныя, сацыяльныя, эканамічныя і культурныя правы і абавязкі.

БСДП выказваецца за дэпалітызацыю, дэідэалагізацыю і дэклерыкалізацыю навучальных устаноў, за вывядзенне са школ, ССНУ і ВНУ структур палітычна, ідэалагічна і рэлігійна арыентаваных дзіцячых і маладзёжных аб'яднанняў.

БСДП выступае за бясплатную адукацыю ў дзяржаўных навучальных установах. БСДП падтрымлівае прыватную ініцыятыву ў галіне адукацыі і лічыць, што прыватныя школы, каледжы і ўніверсітэты таксама павінны існаваць пры ўмове адпаведнасці іх дзейнасці дзяржаўным і міжнародным стандартам у рамках Балонскага працэсу.

Кожны выпускнік сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы і ВНУ павінен імкнуцца да валодання беларускай мовай і адной ці дзвюма замежнымі.

БСДП лічыць, што найбольш эфектыўным сродкам прадухілення дзіцячай і падлеткавай злачыннасці з'яўляецца павышэнне жыццёвага ўзроўню грамадзянак і грамадзян, добрая адукацыя, занятасць у вольны час, гарантыя першага месца працы, магчымасць далейшага выбару працы ў адпаведнасці са здольнасцямі і схільнасцямі.

БСДП выступае за павышэнне стаўкі (акладу) настаўнікам да ўзроўню сярэдняга заробку ў прамысловасці, а выкладчыкам ВНУ і ССНУ – за павышэнне стаўкі (акладу) да памеру 1,5 сярэдняга заробку ў прамысловасці.

### За ваенны нейтралітэт

БСДП выступае за скасаванне дамовы арэнды на размяшчэнне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь двух замежных ваенных аб'ектаў: 43-га вузла радыёсувязі "Вілейка" ВМФ Расіі і радыёлакацыйнай станцыі "Волга" пад Ганцавічамі.

БСДП лічыць, што скасаванне дамовы арэнды з Расіяй аб размяшчэнні яе ваенных аб'ектаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь дасць магчымасць зрабіць крок да практычнай рэалізацыі закладзенага ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прынцыпу аб ваенным нейтралітэце краіны і будзе садзейнічаць зніжэнню напружанасці ў рэгіёне.

У статусе ваенна нейтральнай краіны Рэспубліка Беларусь можа выступаць не толькі рэальным пасрэднікам, але і сапраўдным міратворцам паміж канфліктуючымі краінамі.

### За нашых кандыдатаў

БСДП звяртаецца да грамадзянак і грамадзян Беларусі, якія адчуваюць сваю палітычную адказнасць за будучыню краіны і прыйдуць на выбарчыя ўчасткі прагаласаваць у асноўны дзень выбараў за нашых кандыдатак і кандыдатаў.

ПАЗІЦЫЯ

# Створым БУДУЧЫНЮ разам!

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Калі людзі хочуць пераканацца, што ў нас няма сапраўдных дэмакратычных выбараў, – мы прапануем ім увайсці ў склад участковых выбарчых камісій альбо стаць назіральнікамі і на свае вочы ўбачыць, як адбываецца так званае волевыяўленне народа. Калі чалавек пераканаецца ў гэтым, то ён данясе гэтую інфармацыю да ўсяго свайго атачэння і расплюшчыць вочы тым, хто яшчэ давярае сённяшнім уладам.

**– Ці лічыце, што людзі адгукнуцца на ваш заклік?**

– Калі яны хочуць змен, калі хочуць жыць у нармальнай еўрапейскай дэмакратычнай краіне са стабільным заканадаўствам і правамі чалавека, то так, абавязкова адгукнуцца.

Грамадства ў цэлым ужо апярэджвае ў сваім развіцці нашу ўладу. Улада толькі тое і робіць, што спрабуе стрымаць развіццё грамадства сваімі законамі.

За гады незалежнасці людзі навучыліся адпачываць, вандраваць, лічбалізавацца, нехта самастойна накапіў свой капітал і навучыўся вызначаць, што не так у Беларусі. Акрамя таго, на змену "гома савецікусу" прыходзіць зусім іншы чалавек з зусім іншымі каштоўнасцямі і патрабаваннямі па пірамідзе Маслоў.

Як бы ўлада ні спрабавала стрымаць гэтыя працэсы – яны незваротныя: ідзе глабалізацыя і еўрапеізацыя натуральным чынам. Калі да гэтага далучыць дзяржаўныя тэлеканалы, праз тры месяцы Беларусь стане не расійскай калоніяй і не запаведнікам Савецкага Саюза, а нармальнай краінай са сваім тварам і асаблівасцямі.

Аўтарытарны рэжым не дае беларусам узняцца ў поўны рост і ганарліва ўзняць галаву. Аднак гэта далёка не азначае, што так будзе заўсёды. Працэсы ўжо пайшлі, і тым, хто трымае ўладу, надышоў час задумацца не як яе ўтрымаць праз гвалт, а як сысці без фатальных наступстваў для сябе, бо выплеск усіх эмоцый і пазіцый звычайна адбываецца ў парламенце і мясцовых Саветах, а не на плошчах і мітынгах. Плошча – гэта крайняя форма. Чым даўжэй у нас няма ўключэння грамадзян у працэс прыняцця рашэнняў і прадстаўлення іх інтарэсаў палітычнымі арганізацыямі, тым хутчэй накопліваецца крытычная маса. Калі яна выбухне, нам нічога не застанецца, як далучыцца да гэтага.

За апошнія паўтара года мы зрабілі шмат чаго: намі распрацавана канцэпцыя рэформы судовай сістэмы, падрыхтаваны свой праект Канстытуцыі, пры Мінюсце ішла праца над законапраектам "Аб палітычных партыях" (БСДП была ўключана ў рабочую групу), удзельнічалі ў распрацоўцы змяненняў Выбарчага кодэкса разам з іншымі партыямі, прапанавалі змяніць заканадаўства аб сацыяльна небяспечным становішчы дзяцей (пасля нашых прапаноў адбыліся вельмі карысныя змены), ідзе праца над рэформай пенсійнай сістэмы, а таксама неўзабаве пачнецца праца над законапраектам па ўвядзенні інстытута амбудсменства (адказных за захаванне правоў чалавека ў Беларусі). Ёсць напрацоўкі па іншых напрамках.

Калі людзі гатовы браць удзел у гэтай працы і дзяліцца сваім бачаннем рэформаў, то мы будзем рады іх выслухаць, прыняць іх прапановы, уключыць іх напрацоўкі ў свае праграмныя дакументы.

Беларусь павінна стаць краінай магчымасцяў, і БУДУЧЫНЮ мы павінны ствараць разам!

**– Як думаеце, ці прапусціць улада каго-небудзь з вашай партыі ў дэпутаты?**

– Я не думаю, што гэта здарыцца. За ўвесь час нашага існавання мы яе не хвалілі і не падыгрывалі ёй. Мы называлі рэчы сваімі імёнамі і не спрабавалі паказаць, што аўтарытарны рэжым – гэта брэнд. Гэта дыягназ для палітычнай сістэмы, які варта лячыць. Кажу гэта не толькі як палітык, аднак і як палітолаг.

Шмат хто спрабуе спадабацца ўладзе і паказаць сваю прыхільнасць да яе, быць такім вегетарыянскім апазіцыянерам ці адкрытым спарынг-партнёрам. Некаторыя робяць усё, каб спадабацца і быць прынятым у гэтую сістэму, аднак усё гэта выглядае крывадушна.

Людзі ўсе гэтыя заігрыванні бачаць, і гэта не спрыяе ўмацаванню іміджу ні чалавека, ні яго арганізацыі.

Найлепшая пазіцыя – адкрытая пазіцыя, і мы прытрымліваемся вызначанага курса!

Падтрымаць Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамаду) можна, ахвяраваўшы сродкі на партыйны рахунак.

**Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада)**
УНП102310714.
ЦБУ №529 ААТ "АСБ "Беларусбанк",
бягучы (разліковы) рахунак №BY73AKBB30150915300115500000 (код валюты 933).
г.Мінск, пр-т Незалежнасці, 56. БІК AKBBBY2X
**+375-29-743-51-52.**

ЮБІЛЕЙ

# «Песняры» заўсёды будуць мулявінскія



Першага верасня мы адзначылі 50-гадовы юбілей любімых «Песняроў» – ансамбля, які даў жыццё яшчэ як мінімум тром гуртам з аналагічнай (плюс-мінус) назвай, але ў творчым плане гэта нават не дзеці – гэта ўнукі першых «Песняроў». Ці падобныя яны на прабацьку? Мабыць… Але іх песні ўжо не хвалююць, яны гучаць хіба толькі для ўпрыгажэння сцэны. Народная ж памяць па-сапраўднаму захоўвае і шануе, вядома, толькі першую, мулявінскую, групу. Менавіта яна ўскалыхнула нашу беларускую душу! І як жа тонка, з якім густам гэта было зроблена!

Моцныя, свежыя, чыстыя галасы Уладзіміра Мулявіна, Леаніда Барткевіча, Уладзіслава Місевіча, Анатоля Кашапарава, Валерыя Дайнекі, Ігара Пені, Аляксандра Дзямешкі... Ніякіх лішніх акцэнтаў, ніякай развязнасці, песні дыхалі і ліліся свабодна. Мы ўжо ніколі не забудзем «Александрыну», «Алесю», «Малітву», «Волагду», «Вераніку»... Не, усіх твораў не пералічыць. Але і ніколі не зблытаць гучанне мулявінскага ансамбля з гучаннем яго паслядоўнікаў.

Што было ў паліфаніі першых? Музыказнаўцы вам усё прафесійна раскладуць па палічках, але ўсе, хто асабіста прысутнічаў на канцэртах (ды і зараз слухае ў запісе), скажуць, што ад песень таго ансамбля проста мурашкі беглі па скуры, што гэта былі сапраўдныя шчырыя пачуцці. А толькі яны і застаюцца ў гісторыі, падробкі ж хутка сыходзяць у нябыт. Таму больш правільна было б сказаць, што гэтымі днямі мы адзначаем 50-годдзе памяці аб першых «Песнярах». І гэта ўнікальная падзея для эстрады. Зрэшты, «эстрада» – занадта легкаважнае слова для калектыву, чыя творчасць стала візітнай карткай цэлага народа. Мулявінскія «Песняры» – знакавая падзея для ўсёй Беларусі, гэта наш нацыянальны здабытак, і таму наша агульнае свята. З юбілеем вас, мае суайчыннікі!

**Алена МАЛОЧКА.**

ФУТБОЛ

# Чорная паласа для БАТЭ

*Прайшлі матчы 20-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: “Тарпеда” (Мінск) – “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – 0:3, “Гарадзея” – “Дняпро” (Магілёў) – 3:2, “Славія” (Мазыр) – “Дынама” (Брэст) – 2:4, “Слуцк” – “Віцебск” – 3:0, “Гомель” – “Іслач” (Мінскі раён) – 2:2, “Нёман” (Гродна) – “Дынама” (Мінск) – 0:1, “Энергетык-БДУ” (Мінск) – “Шахцёр” (Салігорск) – 1:2.

А ў сталіцы барысаўскі БАТЭ ў пэўнай ступені сенсацыйна прайграў “Мінску” – 2:3. Нагадаем, што напярэдадні чэмпіён Беларусі вылецеў з Лігі Еўропы, прайграўшы па суме двух матчаў “Астане” з Казахстана.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 19 | 15 | 3 | 1 | 48–14 | 48 |
| БАТЭ | 18 | 14 | 1 | 3 | 38–10 | 43 |
| Шахцёр | 18 | 14 | 1 | 3 | 38–13 | 43 |
| Дынама (Мн) | 19 | 12 | 1 | 6 | 30–20 | 37 |
| Іслач | 20 | 10 | 4 | 6 | 29–23 | 34 |
| Тарпеда-БелАЗ | 20 | 9 | 5 | 6 | 28–23 | 32 |
| Гарадзея | 19 | 8 | 6 | 5 | 20–18 | 30 |
| Слуцк | 20 | 7 | 5 | 8 | 20–32 | 26 |
| Нёман | 20 | 6 | 5 | 9 | 20–30 | 23 |
| Славія | 18 | 6 | 4 | 8 | 21–26 | 22 |
| Віцебск | 19 | 5 | 6 | 8 | 17–24 | 21 |
| Мінск | 20 | 4 | 8 | 8 | 26–31 | 20 |
| Гомель | 20 | 3 | 6 | 11 | 31–38 | 15 |
| Энергетык-БДУ | 20 | 3 | 6 | 11 | 27–52 | 15 |
| Дняпро | 19 | 3 | 4 | 12 | 17–30 | 13 |
| Тарпеда | 19 | 1 | 3 | 15 | 4–30 | 6 |

Фота: fcbate.by



ЭКСТРЫМ

Аляксей КОЛЧЫН:

# «89 гадзін круціў педалі і практычна не спаў»

*Беларускі праваабаронца распавёў “Народнай Волі”, як ён у Францыі пераадолеў больш за 1200 кіламетраў.*

**Аляксей КОЛЧЫН** браў удзел у легендарнай велагонцы Парыж – Брэст (французскі) – Парыж і днямі вярнуўся дадому.

*“Гэта першая велагонка, якая стала праводзіцца рэгулярна, ёй ужо больш за 100 гадоў,* – паведаміў ён. – *Грандыёзная падзея з тысячамі ўдзельнікаў з усяго свету, ці не найвялікшае веласвята, гэткая алімпіяда для велааматараў. Як яе трапна назвалі днямі ў СМІ – «Эверэст велатурызму».*

– Гэтым відам спорту я захапляўся яшчэ з дзяцінства, калі бацькі набылі мне звычайны “Школьнік”, – кажа Аляксей. – Зараз нават і не ведаю, куды ён падзеўся, але любоў да веласіпеда захавалася на ўсё жыццё.

**– Гэта захапленне на аматарскім узроўні?**

– Скажам так: на прасунутым аматарскім узроўні, бо тыя спартыўныя мерапрыемствы, у якіх бяру ўдзел, прафесійнымі не назавеш. Аднак у той жа час, каб патрапіць на гонку Парыж–Брэст–Парыж, трэба мець добрую фізічную падрыхтоўку. І найперш трэба было выканаць шэраг умоў: праехаць серыю брэветаў (арганізаваных велазаездаў на доўгія дыстанцыі) на 200, 300, 400 і 600 кіламетраў. Першую 200-кіламетровую дыстанцыю я пераадолеў у 2017 годзе, праз год за плячыма была серыя заездаў на 200–300–400–600–1000 кіламетраў. І такім чынам атрымаў права на папярэднюю рэгістрацыю на гонку ў Францыі.

Натуральна, гэта была мая мара – узяць удзел у такой прэстыжнай велагонцы, якая праходзіць раз на чатыры гады і на якую прыязджаюць тысячы ўдзельнікаў з усяго свету.

**– За ўдзел у гонцы давялося плаціць з уласнай кішэні?**

– Безумоўна. Напрыклад, унёсак за рэгістрацыю – каля 110 еўра. У дадатак трэба было самому аплачваць усе выдаткі: пералёт, пражыванне і гэтак далей.

Але, шчыра кажучы, я нават і не падлічваў, у якую суму мне абышоўся ўдзел у велагонцы. Мы паехалі адпачываць, і, скажам так, з 18 па 22 жніўня ў мяне быў актыўны адпачынак.

– **Наколькі вядома, стартавалі вы з прыгарада Парыжа…**

– За дзень да гэтага трэба было прайсці своеасаблівы тэхагляд веласіпеда, а стартавалі з горада Рамбуе, які знаходзіцца ў 60 кіламетрах ад сталіцы Францыі. Шлях – да Брэста (каля 600 кіламетраў) і затым вяртанне назад. Каб атрымаць кваліфікацыю гонкі, трэба было 1200 кіламетраў праехаць не больш як за 90 гадзін.

**– За дзень прыкладна якую дыстанцыю пераадольвалі?**

– Складана сказаць, бо ехаў практычна няспынна – і днём, і ноччу. У мяне проста не было часу на адпачынак, бо ў параўнанні з іншымі ўдзельнікамі ехаў даволі павольна. За гонку ўдалося паспаць толькі паўтары гадзіны ды пару разоў спыняўся паспаць па 10–15 хвілін на кантрольных пунктах, дзе можна было паесці альбо купіць нешта з сабой у дарогу. Было і адмысловае спартыўнае харчаванне, з гэтым праблем не назіралася.

**– І як самаадчуванне, калі больш за трое сутак не спіш, а круціш педалі?**

– У такіх умовах у рэшце рэшт усё ператвараецца ў змаганне са сном, каб захаваць свядомасць, утрымаць канцэнтрацыю. Усё ж такі месцамі траса была небяспечная, тым больш што рэльеф там не заўсёды роўны і нават гарысты. Спускі былі вельмі хуткія і актыўныя, таму, як кажуць, не паспіш у шапку.

**– Ці была цікавай гэтая гонка для саміх французаў?**

– Падтрымка мясцовых жыхароў – гэта, напэўна, той момант, які мяне набольш і ўразіў. Не было ніводнага чалавека, які цябе не павітаў бы, калі ты праязджаў міма, не памахаў рукой. Словамі жадалі добрага шляху, дарогі былі ўпрыгожаны рознымі веласіпедамі і плакатамі.



Атмасфера была неверагодна святочная, для французаў гонка і насамрэч значная падзея.

**– Экстрэмальныя выпадкі падчас гонкі не здараліся?**

– На маіх вачах перакуліўся з веласіпедам удзельнік з Японіі, ён якраз-такі і згубіў канцэнтрацыю ў нейкі момант і наехаў на бардзюр. Дзякуй Богу, што абышлося без сур’ёзных наступстваў. Але на трасе вам маглі аказаць і тэхнічную дапамогу, і медыцынскую. Нават масаж рабілі, калі было такое жаданне.

**– Тэхніка вас не падвяла?**

– Усё прайшло нармальна, хаця да пачатку гонкі давялося пахваляваццa, бо па дарозе на тэхагляд пракалоў колы тры разы за дзень на 20-кіламетровым шляху! Гэта, натуральна, мяне моцна напалохала, узяў з сабой на гонку шмат запасных камер.

А затым так сталася, што наступныя 1200 кіламетраў праехаў без адзінага пракола. Можна сказаць, што мне вельмі пашанцавала. Але і дарогі там вельмі добрыя, практычна ідэальны стан, хаця ў гарыстай мясцовасці давялося ехаць і па вясковых дарогах.

**– І які вынік вашага ўдзелу ў гэтай прэстыжнай велагонцы?**

– 1219 кіламетраў я праехаў за 89 гадзін, 4 хвіліны і 10 секунд – уклаўся ў неабходны норматыў. І, наколькі мне вядома, зрабілі гэта толькі трэць з 7 тысяч удзельнікаў гонкі.

**– Вас узнагародзілі пасля гэтага?**

– Так, атрымаў звычайны памятны медаль удзельніка, але і ён для мяне вельмі дарагі. Гэта не проста медаль. Гэта ажыццяўленне даўняй мары…

**Алесь СІВЫ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Пакольки ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 02.09.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 160 экз. Заказ № 3043.

